# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

*№ 31 (45)* *8 кастрычніка 1993 года* *Кошт 25 рублёў*


Палітычная сцэна. Гутарка з **ЗЯНОНАМ ПАЗЬНЯКОМ.**

Дарагі сябра ЛІ. Прыватныя **ЛІСТЫ Ў ГАНКОНГ.**

**АКОЎЦЫ ЗГУРТАВАЛІСЯ.** Зацемкі са зьезду жаўнераў АК.

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

## Дэпутатам не цікава

29 верасьня ў Горадні адбылася сэсія Гарадзенскага Савету народных дэпутатаў. Прысьвечана яна была пераважна выкананьню гарадзкой праграмы «Спадчына». Са 123 прысутнічалі 82 дэпутаты. Самы гарачы момант быў напачатку, пры абмеркаваньні павесткі дня. Толькі 30 дэпутатаў прагаласавалі за пытаньне аб перайменаваньні гарадзенскіх вуліц. Затое 30 жа з іх падтрымалі дэпутата Чычагава, які прагнуў вынесьці на абмеркаваньне сэсіі праблему «дыскрымінацыі рускамоўнага насельніцтва ў Горадні і ў газэце «Гродзенская праўда». Абодва пытаньні не прайшлі.

Намесьнік старшыні гарвыканкаму А. Мілінкевіч пачаў чытаць свой, заўважу, вельмі цікавы, даклад аб захаваньні й разьвіцьці культурнай спадчыны ў горадзе. Аднак большасьці дэпутатаў гэта было настолькі не цікава, што напрыканцы трэба было напружваць слых, каб праз гаману пачуць гаворанае прамоўцам. Былы першы сакратар гаркаму КПБ сп. Забродзкі, напрыклад, пры гэтым увесь час размаўляў са сваім калегам — падпалкоўнікам-вайскоўцам. Памятаю, як паўгады назад з вялікім імпэтам і зацікаўленасьцю дэпутаты спрачаліся пра атаварваньне талёнаў танным вінам... Абражанаму прамоўцы давялося нагадаць шаноўным дэпутатам аб тым, што каўбаса-каўбасой, але дух першасны за матэрыю.

Дэпутат Чычагаў тым часам вырашыў падправіць сваё рэнамэ на вельмі арыгінальны капыл. Сказаўшы колькі слоў нават па-беларуску, ён сказаў, што сэнсу ў гэтым няшмат, бо на вуліцы беларускай мовы не пачуеш (дык хто ж тады ў нас дыскрымінаваны?! — К. М.) Аднак ён вельмі любіць мову, саму Беларусь і яе гісторыю. Але! «Гродзенская праўда» друкуе гістарычныя й краязнаўчыя матэрыялы звычайна па-беларуску. «После нескольких строчек меня начинает это раздражать...»! А таму спадар Чычагаў усё адно настойвае на «парушэньні канстытуцыйных правоў рускамоўнага насельніцтва»...

**К. МАЛЕВІЧ.**

ПОШТА

## «Пагоня» сягнула Канады

З вялікай прыемнасьцю трымаю, нарэшце, ў сваіх руках вашу газэту. Мяркую, што толькі Берасьце й Гомель ня маюць сваіх дэмакратычных газэт. А тое, што такая газэта зьявілася ў Горадні, мяне вельмі ўзрадавала.

На жаль, мая маці, якая жыве ў вёсцы Кямелішкі Астравецкага раёну, даслала мне толькі адзін нумар 12/26 за 14—20 траўня 1993 году. А вельмі нам тут, у Згуртаваньні Беларусаў Канады, карціць атрымліваць яе настала, як мы атрымліваем «Свабоду», «Навіны БНФ», «Выбар» і «Ратушу». На вялікі жаль, гэтыя чатыры назвы, ды яшчэ ваша газэта «Пагоня» — вось і ўвесь дэмакратычны друк у Беларусі. Але дзякуй Богу, што ён усё ж такі ёсьць, і гэта надзея на тое, што ня толькі цяпер «Жыве Беларусь!», але й надалей будзе жыць.

Між іншым, я распачынаю тут кампанію за збор грошай у падтрымку дэмакратычнага друку, бо мяне й іншых сяброў ЗБК вельмі непакоіць нясталы выхад дэмакратычных газэт. Гэтая нерэгулярнасьць выхаду газэт вельмі перашкаджае справе нацыянальнага й дэмакратычнага адраджэньня, і адштурхоўвае чытачоў, якія чытаюць «Рэспубліку», якая хоць і паціху, але вельмі ўпарта робіць сваю чорную справу рэабілітацыі камунізму.

Прайшоўшы Першы Сусьветны Зьезд беларусаў пераканаў мяне ў тым, што калі й ёсьць зрухі ў лепшы бок, то яны пакуль што амаль й нябачныя. Застаецца толькі чакаць наступных выбараў, бо народ пасіўны і не жадае адкінуць ад улады партыйна-намэнклятурных чыноўнікаў. Гэта азначае толькі тое, што наступны ўрад, які, як я спадзяюся, ня будзе камуністычным, прыбудзе амаль што на руіны. Гэтыя нячысьцікі — камунякі зусім зруйнуюць нашую Бацькаўшчыну — Сьвятую Беларусь.

Ня ведаю, будзе вам гэта цікава ці не, але хачу прапанаваць Вам сваё супрацоўніцтва. Я не прафэсійны журналіст, але даволі часта друкаваўся ў розных газэтах. Доктар Вітаўт Кіпель, рэдактар «Беларуса» й дырэктар БІНІМа абяцаў прыслаць мне машынку з беларускім шрыфтам, але пакуль што пішу ад рукі. Дасылаю да вас першы свой артыкул.

**Раман КАРДАНСКІ,**
**рэфэрэнт Згуртаваньня Беларусаў Канады.**

**Ад рэдакцыі. Артыкул сп. Карданскага чытайце, калі ласка, у гэтым нумары «Пагоні».**




*ВІЛЬНЯ* *Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.*

## Масква ўмылася крывёй

Сяджу за пісьмовай машынкай, п'ю каву й не магу стрымацца ад злацешнасьці, бо ў тэлевізары цаляюць з танкавых гарматаў у вокны маскоўскага «Белага» дому. Усё ж надараюцца, як любілі паўтараць бальшавікі, «праздники на нашей улице», або як у нас гавораць,— прыйшоў і наш дзень. Палову сутак у расейскай сталіцы гаспадарылі групоўкі накшталт «чырвоных брыгад», якіх ва ўсім сьвеце называюць тэрарыстамі й бандытамі.

Як убачу ў тэлевізары пысы ўсіх гэтых хазбулатавых, адразу згадваецца сэнтэнцыя Астапа Бэндэра: «Шура, таких как вы нужно убивать на месте». Слушна сказаў прэс-сакратар расейскага прэзідэнта сёньня, панядзелкавай раніцай, аб тым, што «бальшавіцкую сволач трэба зьнішчаць» (цытата недакладная, але сэнс сапраўдны).

Напярэдадні пад «Белым» зьбіраліся прыхільнікі путчыстаў — люмпэн са скажонымі нянавісьцю тварамі, пад чырвонымі сьцягамі й партрэтамі Леніна ды Сталіна. Як з самага малку нам дурылі галовы высакароднасьцю колеру нашага савецкага сьцягу і як выразна бачыш сёньня: суцэльна чырвоны нічым ня лепшы за цалкам чорны. Кроў, але не гэрояў ды барацьбітоў, а — дзясяткаў мільёнаў бязьвінных ахвяраў. А зьверху эмблема — каму сярпом, а каму й молатам...

А паглядзець, якімі ж бандыты аказаліся вернымі ленінцамі! Дзеілі паводле першакрыніцы — гэніяльнага твору «Марксізм ды паўстаньне». Ці памятаеце? Напачатку трэба захапіць тэлеграф, тэлефонную станцыю, вакзалы... Праўда, Ільіч тады яшчэ анічога ня ведаў пра тэлебачаньне, пра «Астанкіна», але ж, як мы выдатна памятаем,— «марксізм ня догма, а кіраўніцтва да дзеяньня»!

Як просты савецкі чалавек, я магу пажадаць ім чагось энкавэдэшна-інквізітарскага. Але паколькі я гіджуся мянушкай савецкага чалавека, дык кажу сабе, што «мы не такія, як яны», а таму трэба быць гуманнымі й патрабаваць для іх справядлівага суда. Справядлівага, але сапраўднага, даведзенага да канца. А то глядзіш, як тыя гэкачэпісты, пачнуць разжалаваны гэнэрал з хазбулатам выпускаць у турме ўласныя вершаваныя кніжачкі.

Так, усё гэта вельмі бязьвінна выглядае, пакуль «полоумные» пэнсіянеры маніфэстуюць у Маскве пад чырвонымі сьцягамі, або праводзяць свае ваяўнічыя зборышчы ў Менску і сьціплейшыя «зьбюркі» у нас у Горадні. Але ва ўсе часы і ва ўсіх народаў гэта сканчаецца крывёй... Можа цяпер хоць яны сьцішацца? Прэзідэнт Ельцын забараніў усе чырвона-карычневыя арганізацыі, пачынаючы ад Партыі камуністых Расеі і Саюза афіцэраў (узгадайце нядаўні «слаўны» зьезд у Менску!), якія ўсчынілі — цытую — «збройны фашыстоўска-камуністычны мяцеж». На жаль, я амаль пэўны, што засуджаныя ў Расеі ў нас гэтыя злачынныя арганізацыі будуць вельмі спакойна існаваць надалей.

Дэмакратычныя сілы ў Расеі паставілі рубам пытаньне аб зьнішчэньні камуністычнай атрыбутыкі, якая сімвалізуе іхнюю злачынную ўладу дагэтуль. Я ўжо не кажу нават пра аграмадных бронзавых Ульянавых-Блянкаў, якія стаяць на нашых гарадзкіх пляцах. Зазірніце амаль у любы рай- або гарвыканкам (апроч Гарадзенскага): Пагонька на трыбуне, бел-чырвона-белы сьцяжок і аграмадная галава Леніна. Яскравы прыклад амаральнасьці, небеларускасьці нашых уладаў. У Расеі ленінаў паваляць, а ў нас, пасярод Эўропы, яны будуць надалей палохаць усіх нармальных людзей, якія прыяжджа-

**(Заканчэньне на 4-й стар.).**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## Лепш мець «пустое месца»,

**Карэспандэнт: Добра вядома, як апазіцыя БНФ ацэньвае становішча ў эканоміцы й палітычную сітуацыю ў рэспубліцы. Аднак, натуральна, што пастаянна адбываюцца зьмены й гэта, канешне, ўносіць карэктывы ў Вашу пазіцыю ў адносінах да падзей!**

**З. Пазьняк:** Гэта памылка, быццам «яно» пастаянна зьмяняецца. Назіраньне лінейных зьменаў (таго, напрыклад, што сёньня стала горш, чым учора, цэны вышэйшыя, чым пазаўчора, і г. д.) ёсьць толькі канстатацыя працэсу палітычнай і эканамічнай дэградацыі. Прычыны іх нязьменныя й, дарэчы, даўно высьветленыя й паказаныя Народным Фронтам. Безумоўна робіцца карэктыроўка палітычнай тактыкі, вызначэньне часовых прыярытэтаў, але пазіцыя не зьмяняецца. Становішча пастаяннае: безславеснае грамадзтва, загнанае ў тупік. І пакуль не адбудзецца зьмена старой намэнклятурна-камуністычнай улады, выхаду з тупіка няма. Гэта не значыць, што палітычныя перамены палепшаць становішча аўтаматычна. Але любая некамуністычная, непраімпэрская ўлада будзе мець магчымасьць адчыніць пэрспэктывы.

**Карэспандэнт: Сёньня відавочна, што Беларусь падвяргаецца нарастаючаму эканамічнаму й палітычнаму дыктату. Якія, на Ваш погляд, шанцы на захаваньне сувэрэнітэту рэспублікі!**

**З. Пазьняк:** Галоўнае не ў дыктаце, а ў палітыцы нацыянальнай здрады, якую праводзіць на Беларусі стары камуністычны ўрад і намэнклятурная большасьць Вярхоўнага Савету. Расейскі імпэрскі дыктат адпаведных колаў і здрадніцкая палітыка беларускай кіруючай намэнклятуры — гэта ёсьць адна агульная палітыка, якую яны ажыцьцяўляюць разам. Прычына такіх дзеяньняў аб 'ектыўна вынікае з агульных сацыяльна-эканамічных інтарэсаў намэнклятуры, для якой улада ёсьць спосаб існаваньня й прыўлашчваньня прыватнай уласнасьці («прыхватызацыя» за кошт дзяржавы, карупцыя, удзел у прадпрыймальніцтве, у разьмеркаваньні рэсурсаў, тавараў, паслуг і г. д.). Суб 'ектыўныя інтарэсы абумоўлены нацыянальным нігілізмам (прычым, у самым паталягічным выяўленьні), характэрным для КПБ — КПСС — спадчыннай арганізацыі ўсёй намэнклятуры.

Зьнешне гэта выглядае так, што старарэжымнае кіраўніцтва, кансэрвуючы адміністрацыйную сістэму на Беларусі й праводзячы адначасна «прыхватызацыю» ў сваіх інтарэсах, тармозячы эканамічныя рэформы, стварыла асновы мафіёзнай дзяржавы, завяла ў нерат эканоміку й фінансавую сістэму краіны. Стаўшы банкрутам, кіруючая намэнклятура баіцца адказнасьці, не бачыць выхаду й гатовая здаць дзяржаўную незалежнасьць пад Расею, зрабіць беларусаў заложнікамі яе імпэрскіх ваенных авантураў. Такія дзеяньні й нават памкненьні ёсьць дзяржаўнае злачынства. Але ашаломлены народ маўчыць, а ўся ўлада ў руках намэнклятуры. Яе ніхто не кантралюе, акрамя самой намэнклятуры.

Калі ж глянуць глыбей, то справа выглядае больш злавесна, пагроза страты незалежнасьці існуе. Мы сталі аб 'ектам прымяненьня традыцыйнай імпэрскай палітыкі з боку ельцынаўска-хазбулатаўскай Расеі. У гэапалітычных раскладках Крамля Беларусь зьяўляецца праблемай № 1. Тут праходзіла перадавая лінія былой савецкай супрацьпаветранай і супрацьракэтнай абароны Масквы, разьмешчаныя 23 базы стратэгічных ракэтаў з усіх 43 існуючых у былым СССР, знаходзіцца 45 тысячаў расейскага стратэгічнага войска. Ствараць новыя лініі й базы за Вязьмай (бо да Вязьмы й Ржэва ляжыць беларуская этнічная й гістарычная зямля й яшчэ невядома, ці застанецца яна пад Расеяй) вельмі дорага й нязручна. Адсюль імкненьне падпарадкаваць Беларусь. Аднак упоперак горла стаў ім наш нэйтралітэт. Таму не выпадкова зьявілася ідэя спачатку аб 'яднаных узброеных сілаў СНД, а потым «калектыўнай бясьпекі» й ваеннага саюзу з Расеяй і іншымі ваюючымі краінамі. Гэтая дактрына пачала працаваць не адразу, а толькі пасьля таго, як былі затармажаныя ў нас рэформы, спыненая структурная перабудова эканомікі, затрыманае ўвядзеньне нацыянальнай валюты, ажыцьцёўлена штучная прывязка да паліўных энэргарэсурсаў Расеі. Разбурэньне беларускай эканомікі праводзілася мэтадычна й прадумана.

Аднак скасаваць сходу беларускі нэйтралітэт не ўдалося. Тады расейска-беларуская намэнклятурная змова выступіла адкрыта супраць беларускай дзяржавы, яе нэйтралітэту й незалежнасьці. Крэмль пэрыядычна перакрывае падачу газу, праводзіць авантурную рэформу з рублём, палохае блакадай і зрывам паставак. Тут жа ў Маскву з Беларусі едзе «группа товарищей» (традыцыйная напрацоўка яшчэ савецкага КДБ) дамаўляцца аб умовах скасаваньня беларускай дзяржавы, пра што імі было неўзабаве выказана ў друку. Рэчы неверагодныя. Але народ маўчыць.

Захоп Беларусі й стварэньне тут расейскага плацдарму — важнейшая ўмова для націску на Украіну, пагроза Польшчы й Летуве. Беларусы павінны ведаць, што ў плянах рускіх бальшавікоў яны як нацыя не існавалі. У выпадку ваеннага канфлікту (нават не ядзернага, а тыпу кувэйцкага) ад Беларусі застанецца куча попелу. (Удар наносіцца спачатку па стратэгічных ваенных аб 'ектах). Вось чаму ажыцьцяўленьне ў 1990 годзе ідэі Беларускага Народнага Фронту аб нэйтралітэце й бязьядзернасьці Беларусі й наданьне потым гэтым палажэньням, дзякуючы стараньням Апазіцыі БНФ, сілы канстытуцыйнага закону зьяўляецца адным з важнейшых палітычных дасягненьняў БНФ. Дарэчы, яно працуе. У СНД ідуць войны, а ў нас ціха, нашы салдаты ўжо не гінуць на чужых войнах. Ды, відаць, не ўсім гэта да спадобы.

Наконт «шанцаў», то Беларусь свой сувэрэнітэт захавае, нават калі яго прыйдзецца абараняць са зброяй. Калі цяперашнія расейскія авантурысты паспрабуюць зьнішчыць незалежнасьць Беларусі, гэта стане пачаткам канца расейскай імпэрыі. Вось чаму я, шчыра кажучы, без трывогі назіраю за ўсім гэтым палітыканствам. Непакоіцца трэба тым, якія ўсю гэтую кашу заварываюць. Тут выяўляецца агонія камуністычнай сістэмы. Яны дагуляюцца, што іх павыцягваюць з іхніх украдзеных і шыкоўных «катэджаў» (слова ж прыдумалі). Тады, можа, хто й апамятаецца, ды будзе позна.

**Карэспандэнт: Адной з галоўных прычын нарастаючага крызісу зьяўляецца сыравінная залежнасьць Беларусі ад Расеі. Як вы ставіцеся да розных прапаноў да яе пераадольваньню: будаўніцтва АЭС, балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектару, арэнды цюменскіх нафтапромыслаў і г. д. !**

## Сабраліся старшыні калгасаў ды ўтварылі яшчэ адну партыю

Напярэдадні мінулых выхадных у рэдакцыю затэлефанаваў чалавек і з хваляваньнем прасіў, каб мы далі яму хоць якую інфармацыю аб тым, што за партыю арганізоўваюць старшыні калгасаў ды вабласныя функцыянэры сельскай гаспадаркі...

На праспэкце Касманаўтаў, 60, дзе некалі мясьцілася вабласная сельгастэхніка, на аўтастаянцы шчыльна стаялі «Волгі» і «УАЗікі» з раёнаў.

У фае, як й некалі, аўталаўка, поўная яды і напояў. Ня вельмі прыветная жанчына адразу запыніла й строга спытала, ці хто-небудзь нас запрашаў і ніякага значэньня ня мае тое, што мы журналісты — «Запрашалі вас, ці не?..»

Аднак дзьверы ў актавую залу былі прыадчыненыя. Ішоў сход.

Даклад аб становішчы ў аграпрамысловым комплексе чытаў Мечыслаў Гіруць, былы намесьнік старшыні аблвыканкаму, якога ў мінулым годзе вызвалілі ад займаемай пасады за злоўжываньне службовым становішчам.

Дакладчык энэргічна апавядаў аб тым, наколькі стала меней сьвіней і кароў у калгасах. Зрабіў выснову, што калі так працягнецца яшчэ два гады, то малака й мяса ў магазінах ня стане. Няма паліва, бульбу ніхто не прымае. Дарэчы, ён зазначыў, што паліва ня стала таму, што Беларусь нібыта своечасова не паставіла Расеі 25 тыс. тон мяса. Урэшце крытычна выказаўся аб палітыцы беларускага ўраду й парлямэнту, які ніяк ня хоча дбаць аб сельскай гаспадарцы й людзях, якія працуюць на вёсцы.

Ён дадаў, што дзень, калі адбываецца вабласная ўстаноўчая канфэрэнцыя па стварэньні вабласной арганізацыі Аб 'яднанай аграрна-прамысловай партыі, стане гістарычным. Маўляў, будзем папраўляць становішча ў сельскай гаспадарцы, толькі ўжо не капэсэсаўскімі мэтадамі.

Пачаліся выступленьні ў спрэчках. На трыбуну палезьлі старшыні калгасаў і раённыя кіраўнікі. Дасталося ўсім «товарищам»: і Шушкевічу, і Кебічу, і нацыяналісту Пазьняку, які хоча разагнаць калгасы, і п 'яніцы Ельцыну, што сабраў трох паляўнічых у лесе й разбурыў Саюз. Узгадалі нават Гарбачова.

Дарэчы, усе адназначна зьярталіся да прысутных са словам — «товарищи». З жалем зазначалі, што ў душы яны за КПСС, але не за яе лідэраў, і выказвалі надзею, што новая партыя, новыя райкамы й абкамы, пярвічкі адновяць справу сяла.

Павіншаваў прысутных госьць з Менску Ю. Хусаінаў, які шчыра распавядаў пра сваю біяграфію, якую пачынаў з камсамольскага работніка й дайшоў да намесьніка міністра Сельскай гаспадаркі БССР. Зазначыў «товарищам», «что они сумели доказать, что колхозы и совхозы, убрав такой урожай, показали, что только колхозы и совхозы выведут нас на новый уровень. Люди не хотят распускать колхозы...».

Цікава, што на гэтым сходзе не выступіў ніводзін калгасьнік, ды й хіба магло для яго знайсьціся месца ў старшынёўскім «УАЗіку» альбо ў райвыканкамаўскай «Волзе»?

Сход абраў адкрытым галасаваньнем безальтэрнатыўную кандыдатуру Гіруця на пасаду вабласнога старшыні Аб 'яднанай аграпрамысловай партыі. Намесьнікам, таксама безальтэрнатыўна, быў абраны М. Кавалёў, старшыня ўпраўленьня сельскай гаспадаркі Смаргонскага раёну, які й праводзіў сход.

Акрамя таго, быў абраны вабласны савет партыі, а таксама дэлегаты на II зьезд Аб 'яднанай аграрна-прамысловай партыі Беларусі.

Старшыні раз 'яжджаліся задаволеныя «проделанной работой», толькі наўрад ці хто з іх думаў, што ў гэты дзень стаіць на полі невыкапаная бульба, невыбраныя буракі, няма чым запраўляць трактары й машыны.

Яны зрабілі больш важную справу: утварылі партыю, якая потым зойме належнае месца ў парлямэньце й будзе кіраваць краінай.

Дарэчы, падобныя ўстаноўчыя сходы ўжо мелі месца ў Віцебскай і Гомельскай вабласьцях.

**Ф. МАЛЕЦКАЯ.**

### Хто замест Арцымені!

**5 кастрычніка адбылося паседжаньне прэзідыума вабласнога Савету народных дэпутатаў. Пытаньне аб кандыдатурах на месца нябожчыка Д. Арцымені не абмяркоўвалася. Аднак з добра паінфармаваных крыніц нам вядома, што прысутнічаў супрацоўнік апарата Кебіча былы заворг ЦК КПБ Шчарбакоў. Ен прыватна гутарыў са старшынямі райвыканкамаў — членамі прэзідыума наконт магчымай кандыдатуры. Сёньня, 8 кастрычніка ў Горадні мае адбыцца нарада старшыняў райвыканкамаў вобласьці, скліканая адмыслова дзеля таго, каб абмеркаваць кандыдатуру будучага старшыні вабласнога Савета. Такім чынам, дэпутатам на сэсіі будзе пасутнасьці прапанавана для зацьверджаньня ўжо канкрэтная кандыдатура. Як ў «добрыя» старыя абкамаўскія часы. Дарэчы, па нашых дадзеных, галоўны кандыдат на месца Арцымені — былы першы сакратар абкаму КПБ Сямёнаў, сёньняшні сустаршыня Партыі камуністаў Беларусі.**

**А. А.**

## ЗВАРОТ апазіцыі БНФ да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь

Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі ўхваляе рашучыя дзеяньні прэзідэнта Расеі спадара Ельцына па ліквідацыі чарговага фашыстоўска-камуністычнага мяцяжа ў Маскве, распачатага экстрэмістамі 3-га кастрычніка. Мы выказваем спачуваньні родным і блізкім нявінна забітых людзей у Расеі, асуджаем камуністычных і фашыстоўскіх забойцаў.

Апазіцыя БНФ дічыць, што злачынныя сілы разбою і вайны ў Расейскай Фэдэрацыі вялі падрыхтоўку да мяцяжа ў Маскве сумесна з камуністамі і пракамуністычнымі, праімпэрскімі арганізацыямі на Беларусі, зьвяртае ўвагу на сувязь дзеяньняў камуністаў Беларусі і Расеі. Грамадзкім выяўленьнем гэтай сувязі і падрыхтоўкі мяцяжу стаў так званы «Кангрэс народу Беларусі», зьмест якга быў скіраваны на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і аднаўленьне таталітарнага СССР.

Грамадзтва Беларусі стала сьведкам здрады Радзіме часткі дэпутатаў пракамуністачнай бальшасьці Вярхоўнага Савета Беларусі, якія ўступілі ў злачынную змову са Старшынёй былога Вярхоўнага Савета Расеі і арганізатарам крывавага мяцяжа — Русланам Хазбулатавым і іншымі чырвона-карычневымі сіламі, ўзначальваемымі сп. сп. Зюгановым, Стэрлігавым і інш. Усё гэта адбывалася пры спагадных адносінах пэўных структураў і асобаў урада Беларусі (Г. Данілава, С. Гайдукевіча, В. Паўлава і інш.).

Мы, дэпутаты Апазыці БНФ, настойваем на тэрміновым скліканьні нечарговай Сэсіі Вярхоўнага Савета Беларусі.

Мы патрабуем ад Савета Міністраў Беларусі тэрміновых захадаў. Менавіта:

— забясьпечыць бясьпеку тэрыторыі Рэспублікі Беларусі ад пранікненьня злачынных групірок і асобаў пасьля разгрому фашысцка-камуністычнага мяцяжа ў Расеі;

— тэрмінова ўвесьці дакумэнтальны і мытны кантроль на межах Беларусі з Расеяй, а ў бліжэйшы час разгледзець пытаньне аб увядзеньні візавага рэжыму;

— забараніць дзейнасьць камуністычных і праімпэрскіх партыяў і арганізацыяў на Беларусі (ПКБ-КПБ-КПСС, ДСПС, Саюз афіцэраў, Славянскі Сабор «Белая Русь»).

Мы зьвяртаемся да Гэнэральнага пракурора Беларусі сп. В. Шаладонава з патрабаваньнем прыступіць да рассьледваньня антыдзяржаўнай дзейнасьц гэтых арганізацыяў, ступені іў удзелу ў камуністычным мяцяжы ў Расеі і ў падрыхтоўцы гэтага мяцяжу.

Мы лічым неабходным паставіць пытаньне перад Вярхоўным Саветам аб пазбаўленьні дэпутацкіх паўнамоцтваў народных дэпутатаў Беларусі Генадзя Казлова, Мікала Скарына, Аляксандра Лукашэнкі, Івана Трусава, Мікалая Грынёва, якія выступілі супраць незалежнасьці Беларусі. Мы ставім пытаньне аб рассьледаваньні Гэнэраьным пракурорам Беларусі іў магчымага ўдзелу ў падрыхтоўцы камуністычнага мяцяжу ў РАасеі і ў жхеяньнях, накіраваных на ліквідацыю сувэрэнітэта і дзяржаўнасьці Белурусі, пра што большасьць з іх неаднаразова публічна засьведчылі.

Мы патрабуем неадкладна спыніць распаўсёджваньне на Беларусі расейскіх камуністычных і фашытоўскіх газэт («Правда», «Саветская Россия», «День» і г. д.).

Мы лічым недапушчальным знаходжаньне на тэрыторыі Беларусі кіраўнікоў кампартыяў іншых краінаў (сп.сп. Буракявічуса, Шведа і інш.), якія прасьледуюцца ў гэтых краінах па закону за крымінальныя дзеяньні.

**Народныя дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце:**
**З. Пазьняк, У. Заблоцкі, В. Голубеў, Л. Баршчэўскі, М. Крыжаноўскі, С. Навумчык, Г. Сямдзянава, Б. Гюнтар, А. Трусаў, В. Алампіеў, С. Антончык, У. Новік, Ю. Беленькі, Л. Здановіч, І. Пырх, Л. Тарасенка, В. Малашка, І. Германчук, Л. Дзейка, І. Герасюк, А. Шут, П. Холад, Я. Цумараў, В. Даўгалёў (член дэпутацкай групы «Згода»).**

ГРАМАДЗТВА

# Масква ўмылася крывёй

(Пачатак на 1-й стар.).
юць да нас з Польшчы, Нямеччыны або яшчэ скуль-небудзь.

▬

А роля тэлебачаньня, між тым, напраўду велізарная. Нядзельны вечар. Экран «Астанкіна» пагас, тамака ідзе бой. «Вести» выходзяць аднекуль з запаснай падмаскоўнай студыі. Вось калі ўпершыню я ўсьцешыўся тым, што ў нас вяшчае Піцер, ТБ якога працавала ў звычайным рэжыме. Праўда, гэтыя дзьве станцыі прымаліся не па ўсёй Расеі, але затое існуе радыё «Свабода», якое карысталася таксама й паведамленьнямі тэлебачаньня.

Пасьля 22 гадзінаў у мяне раптам зьніклі расейская й першая польская праграмы, г. зн. тыя, якія не прыймаюцца на пакаёвую антэну. Гэта здалося пагатоў падазроным, што яшчэ адна мэтровая — менская станцыя вяшчала па-ранейшаму, але, як заўжды, прапаноўвала інфармацыйны вакуум. Тады мне здалося, што адбылася дывэрсія ў маштабах усёй Горадні. Дзякуй Богу, назаўтра высьветлілася, што я памыляўся. Хаця гэтыя дзьве станцыі ў мяне дагэтуль маўчаць.

Чаму ў падобных сітуацыях для чырвона-карычневых небясьпечнае польскае тэлебачаньне? Таму што гэта станцыя эўрапэйскага ўзору, якая ў падобных экстрэных сітуацыях наладжвае зьместоўныя інфармацыйныя праграмы штогадзіны. Гэтак было пад час румынскіх падзей, віленскіх, жнівеньскага путча 91-га году, гэтак было й мінулай нядзеляй. Гарадзенцы ў падобных выпадках у некалькі разоў лепей паінфармаваны за іншых беларусаў.

▬

Масква — барометр. Як толькі тамака разварушваюцца чорныя сілы, ў Горадні адначасам пачынаюць узьнімаць голаў нашыя мясцовыя камуністыя. Яны разумеюць толькі мову кулака. Чаму маскоўскі працэс над КПСС ператварыўся ў фарс? Чаму спусьцілі на тармазах суд над гэкачэпістамі? Чаму не адбыўся другі «Нюрнбэргскі» працэс, гэтым разам над чырвонымі? Вось і маем, што маем.

▬

На жаль, паводле аднаго амэрыканскага пісьменьніка «Расея спэцыялізуецца на трагедыях». Карацей, гэта не апошні крывавы путч у Маскве. Нацыя, якая не жадае раскаяцца й пачаць цяжка працаваць... Нам наканавана кожны раз адчуваць іхнія выбрыкі на сабе. Бабуліны сказалі, што назаўтра яны аднавяць нам усім СССР.

▬

Сын адказваў сёньня на ўроке гісторыі. «860-ы год у гісторыі арабскай дзяржавы азнаменаваўся...» — нехта з парты падказаў: «Штурмам «Астанкіна». Дасьціпная ў нас моладзь! Настаўніца беларускай мовы шчыравала з вучнямі, спачуваючы путчыстам: а ўсё ж раней добра мы жылі, ніхто ж ня скардзіўся... Дзеці пачалі рашуча з ёй спрачацца. Хутчэй бы яны выгадаваліся!

▬

Да апошняга верасьнёўскага дня спадзяваўся ў апошні раз зьезьдзіць да Друскенік, каб паблукаць у прысадах каля Нёмна, выпіць філіжанку кавы, падыхаць жоўтай дзуцкай восеньню. Усё. Цяпер — візы, 10-даляровыя.

Адратавацца ад «чумы» бадай немагчыма, але можна хаця б паспрабаваць адгарадзіцца, як эта зрабілі летувісы. Іхняя мяжа зачынена, а ў Летуве болей няма чужога войска.

▬

Прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавэл нядаўна падпісаў указ, паводле якога Камуністычная партыя Чэхаславаччыны прызнана «злачыннай арганізацыяй, вартай асуджэньня». Дакумэнт мае адно дэкляратыўны й маральны характар. Там гэтага дастаткова.

Камуністыя паабіцалі, сыходзячы, ляснуць дзьвярыма. Свастыка яшчэ раз, як у 39-м, злучылася з чырвонай зоркай. Дай Божа, каб гэта не была ўсяго толькі рэпетыцыя. Жыве Беларусь!

К. МАЛЕВІЧ.

## Імамы ў былым санаторыі ЦК КПСС

У падмаскоўным санаторыі «Паляны» скончыла сваю працу выязная сэсія ісламскага унівэрсітэту «Бансауд». Дэлегаты сэсіі, а іх было 300 чалавек, на працягу месяца вывучалі каноны вядзеньня службаў і адпраўленьне сьвяточных і рытуальных мэрапрыемстваў, а таксама вялося падрабязнае вывучэньне Сьвятой кнігі мусульман «Карана».

Пасьля такой падрыхтоўкі ўсе 300 слухачоў атрымалі пасьведчаньні й былі высьвечаныя ў сьвятары, сярод іх і чацьвёра гарадзенцаў, якія ў хуткім часе распачнуць сваю прапаведніцкую дзейнасьць на месцах.

Дарэчы, усе выдаткі па праведзеньню сэсіі й навучэньню сьвятароў узяла на сябе Саудаўская Аравія.

## Жыхаркам Скідаля — грошы ад Саудаўскай Аравіі

«Пагоня» раней паведамляла, што ўрад Саудаўскай Аравіі стварыў пры беларускім згуртаваньні мусульман дабрачынны фонд з мэтай фінансавай дапамогі адзінокім і састарэлым.

Першымі дапамогу ад фонда памерам 50 тысяч рублёў атрымалі дзьве жыхаркі Скідаля.

Г. У.

## Эспэрантысты прыехалі, але ня ўсе, хоць эпідэміі халеры ў Горадні й ня было

Фае Палаца тэкстыльшчыкаў Горадні поўнілася мовай, на якой размаўлялі госьці з Украіны, Летувы, Расеі, Польшчы. Размову між сабой вялі дэлегаты міжнароднай канфэрэнцыі эспэрантыстаў.

У зале, дзе адбылася сама канфэрэнцыя, вольных месцаў было багата. Але вядучая, старшыня Беларускай асацыяцыі эспэрантыстаў Леанадра Воўкава не бяз гонару зазначыла, што на канфэрэнцыі прысутнічае прэзідэнт Міжнароднага таварыства дружбы й добрай волі спадар Стэнлі Дрэйк са Злучаных Штатаў Амэрыкі. Затым спадарыня Леанарда распавяла прысутным пра гісторыю руху эспэранта на Беларусі. У прыватнасьці, яна зазначыла, што мовай эспэранта ў нашай дзяржаве захапляліся вядомыя беларускія пісьменьнікі Янка Маўр, Цішка Гартны, Янка Купала, С. Новік-Пяюн і многія іншыя.

Потым выступілі намесьнік старшыні Гарадзенскага гарвыканкаму А. У. Мілінкевіч і старшыня Беластоцкай філіі эспэрантыстаў Польшчы Станіслава Навакоўска. Трымаў слова й спадар Стэнлі Дрэйк. У заключэньне першага дня працы адбыўся невялікі канцэрт, на якім выконваліся выключна беларускія мэлёдыі на мове эспэранта. Потым была агульная вячэра, падчас якой кар. «Пагоні» даведаўся ад сакратара рэспубліканскай асацыяцыі эспэрантыстаў С. Сурбы, што многія з запрошаных не прыехалі толькі таму, што ў заходнім друку зьявіліся паведамленьні нібы аб эпідэміі ў Горадні чумы й халеры. Таму, каб канфэрэнцыя адбылася, мясцовым эспэрантыстам давялося браць ад санэпідэмстанцыі даведку, што ўспышкі эпідэміі — выдумка.

Другі дзень быў менш напружаны — ўдзельнікі канфэрэнцыі пабывалі на набажэнстве ў фарным касьцёле, якое, дарэчы, вялося на міжнароднай мове, правялі круглы стол і агледзелі выставу па гісторыі эспэранцкага руху на Беларусі, якую з'арганізавалі ў гонар канфэрэнцыі.

Дарэчы, у працы канфэрэнцыі прыняў удзел унук стваральніка міжнароднай мовы Луіс Залескі-Замэнгоф, з якім таксама пагутарыў кар. «Пагоні». Аб тым, што распавёў Залескі-Замэнгоф у гутарцы, чытайце ў адным з наступных нумароў «Пагоні».

Г. АСТРОЎСКІ.

ПОШТА

## Чытаю ад першага да апошняга радка

Ваша газэта цікавая, і я цешуся, што да мяне ідуць людзі, каб пазычыць Вашу «Пагоню». Іншых газэт ці часопісаў у мяне не пазычаюць.

Дзякую Вам за мужнасьць і шчыры беларускі патрыятызм, за такую багатую й праўдзівую інфармацыю.

Выпісваю шмат пэрыядычных выданьняў, але толькі «Пагоню» чытаю ад першага да апошняга радка. На іншыя часу не хапае. Кожны нумар «Пагоні» — гэта сьвята ў хаце. Буду прапагандаваць «Пагоню» у Мастоўскім раёне й нават за яго межамі.

Жыве Беларусь!

Са шчырай падзякай і з вялікай удзячнасьцю

Алесь БЕЛАКОЗ, Гудзевічы.

# Прыватныя лісты ў Ганконг

### 1. Дарагі сябра Лі!

Надыходзіць няўмольна той час, калі вас вернуць Кітаю. Мне цікавыя твае пачуцьці: ты будзеш адчуваць сябе эмігрантам, калі гэта адбудзецца, ці ты эмігрант — сёньня, бо Ганконг адарваны ад мэтраполіі, а ім кіруюць замежныя каланізатары?..

Нашая Беларусь заўжды была пад Расеяй, прынамсі як я нарадзіўся тутака. Мы ўвесь час чуліся эмігрантамі. Прыкрае, балючае, ганебнае пачуцьцё — нібы ты байструк або ўтрыманец у роднай хаце. Потым мы часова ўздыхнулі, нават крыху акрыялі. Непараўнальная з нічым рэч — нарэшце апынуцца дома! Але гэта скончаецца. Як напачатку верасьня пайшлі чарадой «янычарскія» кангрэсы ў Менску, мы скурай адчулі: зноў у клетку заганяюць.

Не хачу ў ніякі Ганконг, але ноччу сьню сябе ў Ганконгу, ці ў нейкім іншым незнаёмым, экзатычным месьце. Мільгаціць уваччу нэон рэклямы, дамы-вежы працінаюць цемру неба, вялікі рух, іншаземная гамонка. А я чужы і непатрэбны да недарэчнасьці. Ніхто ня ведае маёй мовы, ніхто не жадае мяне выслухаць. Ганконг.

### 2. Кепскі доктар

Я б сказаў яшчэ інакш, але стрымаюся. Сапраўды: доктар заклікае кінуць паліць, а сам на вачах у цябе цыгарэты адну за адной смокча. Настаўніца, якая навучае дзяцей беларускай мове, сама ёю не валодаючы, яна лічыць яе грубай, грэбуе.

Урад, які нараджае пастанову: усім абавязкова карыстацца «наркомаўкай». А сам ігнаруе беларускую мову ўвогуле. «Из принципа».

### 3. «Рэспубліка»

Памятаю, як два гады таму, перад адлётам з Менску да Мінэральных Водаў, набыў у шапіку першы нумар новай газэты «Рэспубліка». Сэрца захвалявалася, калі ўбачыў яе. Чамусь мне гэтая назва ўнушала ўпэўненасьць. У Летуве ёсьць такая газэта, у Італіі, у Польшчы. У летаку спаў. У гатэлі ўзяўся за газэту. Мяне чакала расчараваньне. На беларускай мове толькі шыльда, цытата з Каліноўскага (!?) і адна зацемка на апошняй старонцы. З прыкрасьцю занёс «Рэспубліку» у прыбіральню.

Паехаў ад нас адзін хлопец працаваць у тую «Рэспубліку». Свой — беларус, гаворыць па-наску. Прыяжджаў нядаўна, пакінуў сваю візітоўку. Шыкоўная. Папера, колеры! Але апроч гэрба ды «І» у шыльдзе усё астатняе — па-расейску. Установа абавязвае!

### 4. Бязплоднасьць

А ўсё ж прыемна, што парлямэнцкая большасьць са сваіх шэрагаў вылучыла ўсяго толькі калгаснага старшыню. Пярэдадзень дваццаць першага стагоддзя, час інтэлектуалаў... Плебс, гэгэмон, прымітыў. А да ўсяго яшчэ — хам і мацяршчыньнік. Непрыемна, але тым жа часам прыемна.

### 5. Вайсковыя Гульні

Гэнэралы ў сьвеце ўсякай трасцы баяцца. А самыя сьмелыя ў нас. У беларускім міністэрстве абароны баяцца толькі аднаго: праяваў беларускага духу. Гэта ж трэба — абвясьціць Дзень СА і ВМФ — днём беларускага войска!

І раптам БЗВ заяўляе: мы таксама — за! Аказваецца, 23-га лютага быў падпісаны загад аб фарміраваньні Беларускай краёвай абароны.

Адзін-нуль! Мяч у вашую браму, спадары-тавары шы гэнэралы. Дзякуй. Даўно я гэтак не сьмяяўся!

### 6. Самагонны сіндром

У Менску шумяць агрэсіўныя кангрэсы ды зьезды, на якія зьлятелася антыбеларускае «птаства» адусюль, нават з замежжа. Спакойна! Усё нармальна.

8 верасьня. Невялікая колькасьць патрыётаў прымае сімвалічную прысягу Беларусі, яшчэ меншая купка — у Слоніме. Гарадзенцы ідуць затым да грунвальдзкай пліты ля Каложы. Іх насьцярожана суправаджае процьма міліцыянтаў.

Урад баіцца купкі патрыётаў, выдае супраць іх адпаведны ўказ. Міліцыю прымушалі змагацца з самагоншчыкамі, цяпер — з бэнээфаўцамі. А чаму б і не, злачыннасьць жа ў нас зьліквідавана. Не рабіць жа міліцыю беспрацоўнай!

Натоўп міліцыянтаў суправаджае купку бэнээфаўцаў. Потым дзесяць дзён адбываецца «разбор палётаў». А тым часам забіваюць вельмі вялікага, самага вялікага начальніка.

Ну што зробіш, недагледзелі. Трэба ж было з тым Жынём разабрацца.

### 7. Сэйсьмічная зона

Мы даўно ўжо не жывём. Мы даўно прыслухоўваемся да вулкана. Самага вялікага ў сьвеце. Што? Не, ні Фудзіяма. Самае страшнае, што ў гэтым няма аніякага сэнсу. Нават пачуўшы выбухі на адлегласьці, мы ня здолеем уратавацца. Мяжа на захадзе дагэтуль задратавана. Мы — сьмяротнікі.

21 верасьня. Вулкану зноў нешта не дасападобы. Паддосьледным трусам не наканавана ўцячы, іх трымаюць у клетцы.

### 8. Фарс-вадэвіль

Жнівень 91-га, верасень 93-га. «Белы» дом у Маскве. Якая выразная сёньня ісьціна аб тым, што гісторыя паўтараецца толькі ў выглядзе фарсу!

Руслан Ібрагімавіч і вусаты гэнэрал з крынічнымі вачыма, якому заманулася прэзідэнцтва, мадзеюць пры сьвечках у шклянках у прэзідыуме

# ЭМІГРАЦЫЯ

## Пасадзі такіх за стол...

Была ў мяне спрэчка з добрай знаёмай, расейкай з Беларусі. Калі мяне не падманвае памяць, жыла яна ў Менску й працавала ў Палітэхнічным інстытуце.

Яна з такім захапленьнем тлумачыла мне, што беларуская мова ніколі не адродзіцца, што гэта дрэнны дыялект старарасейскай мовы. Даказвала, што нават беларусы ў Менску не жадаюць размаўляць па-беларуску. Што народ рашуча адкіне беларускую мову, што яна яму не патрэбна, што ёсьць... «прекрасный и могучий русский язык». Пералічваю ўсё гэта не дзеля таго, каб падкрэсьліць яе глупства. На жаль, дзеўчына яна разумная й інтэлігэнтная. Нават згаджаецца на незалежнасьць Беларусі, абгрунтоўваючы гэта тым, што Беларусь, нарэшце, перастане п 'яўкай смактаць кроў з «беднай» Расеі.

Няма жаданьня спрачацца на тэму, хто з каго смактаў кроў, бо ў гэтым пытаньні кожны лічыць сябе пакрыўджаным, а вось аб мовах паспрачацца жадаю.

Я добра ня ведаю сучаснага становішча ў Беларусі, таму мне цяжка даваць парады, бо інфармацыю атрымліваем з тых нешматлікіх газэт, якія выпадкова патрапляюць у рукі. Але, чытаючы іх з вялікай зацікаўленасьцю, так і не зразумеў добра, зьяўляецца Беларусь незалежнай краінай ці не. Уражаньне такое, што хутчэй не, чым так. Каб гэта было ня так, самога пытаньня пра двухмоўе не паўстала б.

Дзякуй Богу, я быў сьведкам нацыянальнага адраджэньня летувіскай і латышскай нацыяў. Цяпер мы бачым, як, пераадольваючы цяжкасьці, будуюць яны сваё дэмакратычныя краіны. Не згаджаючыся нават з тымі парушэньнямі правоў чалавека ў Латвіі, можна, аднак, іх зразумець. Можна зразумець іх змаганьне за сваю нацыянальную мову, бо латышы цяпер — нацыянальная меншасьць у сваёй краіне.

Лепш за ўсё было б браць прыклад з суседняй Летувы. Тым больш, што этнічная сітуацыя як у нас, так і ў Летуве аднолькавая. Карэнная нацыя налічвае 80% насельніцтва краіны. Але нельга параўноўваць моўную палітыку летувісаў і беларусаў. Летувісы далі ўсім, хто жыў у Летуве па 1-га лістапада 1989 года, сваё грамадзянства. Аднак, адначасова прынялі закон аб дзяржаўнай мове! Згодна з якім даецца кожнаму, хто хоча надалей працаваць на сваёй пасадзе, пэўны кавалак часу на вывучэньне дзяржаўнай мовы. Памятаю, колькі коп 'яў пераламалася ў спрэчках, як пагражалі й г. д.

Цяпер, калі прайшло больш за два гады, можна падвесьці вынікі. Тыя, хто хацелі займаць свае пасады надалей, вывучылі летувіскую мову. Справаводзтва перайшло на дзяржаўную мову, й супраць тых, хто парушае «Закон аб дзяржаўнай мове», узбуджаюцца крымінальныя справы, як супраць злачынцаў. Тыя, хто ўпарта адмаўляўся вывучаць мову, пазбаўляліся сваіх пасадаў. Жорстка? Але чаму кітайцы, якія жывуць тут, у Канадзе, не патрабуюць дзяржаўнасьці кітайскай мовы ў дадатак да ангельскай і францускай. Гэта пры тым, што па-кітайску размаўляе кожны чацьвёрты чалавек у сьвеце, а ня кожны трыццаты, як па-расейску. Ды, ведаючы добра кітайцаў, бачу, што яны не ствараюць з сябе «старэйшага брата».

Сьціпласьць і гасьціннасьць беларускага народа вядомыя ва ўсім сьвеце. Але я бачу, што сьціпласьць нашага ўраду ўжо занадта вялікая. Мусіць, таму няма поўных зрухаў у выкананьні «Закона аб дзяржаўнай мове». Ці па нашай беларускай сьціпласьці ды небарачлівасьці закон прынялі, але бяз пэўных мэханізмаў яго выкананьня? Таму мяне зьдзіўляе, што пасьля двух гадоў выкананьня гэтага закону адчувальных зрухаў нябачна. Хацелася мне, напрыклад, хацелася б даведацца, якія тэрміны выкананьня былі прыняты? І ці хтонебудзь быў пакараны за невыкананьне менавіта гэтага закону.

Лічу, што настаў час, калі на зьмену ўгавораў павінны прыйсьці іншыя мэтады перакананьня людзей. Чаму расейцы, якія карыстаюцца гасьціннасьцю нашага беларускага народа, маюць яшчэ нахабнасьць павучаць яго, як трэба жыць? Я яшчэ магу зразумець і вытрываць, калі якінебудзь швэд ці немец будзе даваць нам парады. Але расейцы, нягледзячы на тое, што краіна іх можа пачаць развальвацца й дзе жыцьцёвы ўзровень амаль найгоршы, нахабна дыктуюць нам, як жыць.

Я шаную расейскія літаратуру й мастацтва, хачу таксама, каб расейцы, якія жывуць у Беларусі, таксама з павагай і пашанай адносіліся да нашай літаратуры й мастацтва. Мяркую, што вершы Багдановіча, Купалы й Коласа ня горшыя, чым вершы Пушкіна, Лермантава й Фэта. А проза ў беларускай літаратуры такая ж цікавая, як і расейская. Творы сучасных беларускіх пісьменьнікаў, напрыклад, Уладзіміра Караткевіча, чытаюцца з ня меншым захапленьнем, чым творы Валяньціна Пікуля. А цыкл раманаў беларускага эміграцкага пісьменьніка Кастуся Акулы нават лепшы за такую ж вясковую прозу Васіля Бялова. Можа, таму, што яны праўдзівыя, а стыль Акулы — стыль беларуса, сэрца якога расьсекла балючая крыўда за сваю абрабаваную, зґвалтаваную й зруйнаваную Бацькаўшчыну.

Ніхто ня супраць таго, каб друкаваліся ў Беларусі расейскамоўныя газэты й часопісы, каб выходзілі кніжкі па-расейску. Я супраць таго, каб чалавек, які зьяўляецца госьцем у нашай хаце, калі мы ветліва запросім да стала, клаў свае ногі на стол.

Нацыянальна-культурная аўтаномія — рэч вельмі добрая. Напрыклад, калі ёсьць у Беларусі мейсцы, дзе кампактна жывуць людзі адной нацыянальнасьці, толькі можна падтрымліваць, калі ўрадавыя служачыя ў гэтай мясцовасьці валодаюць ня толькі дзяржаўнай мовай, але й мовай гэтай нацыянальнасьці. Мяркую, што гэта магчыма зрабіць так, як гэта зроблена ў Канадзе й асабліва ў Таронта, дзе кожная этнічная група гуртуецца вакол сваёй community, сваёй абшчыны. Гэта эфэктна тады, калі ёсьць свае нацыянальныя дыстрыкты (гарадзкія й сельскія раёны). А ці ёсьць яны ў Беларусі?

Бачу толькі адно выйсьце. Трэба ўводзіць беларускую мову ў школы й дзяржаўныя ўстановы жорсткімі адміністрацыйнымі сродкамі. Хопіць ужо ўгаворваць прадстаўнікоў нашага «старэйшага брата» ды іншых. Хто хвалюецца за сваю культуру й мову — стварайце нацыянальна-культурныя суполкі. Палякі, напрыклад, ужо стварылі. Але мне хацелася б даведацца ў пракурора Беларусі — чаму ў Беларусі дзейнічаюць такія рухі, як «Белая Россия» і іншыя? Якія наогул адмаўляюць нам у праве на незалежнае жыцьцё. Можа тут таксама было б карысна зазірнуць у Летуву й даведацца, дзе цяпер КПЛ — КПСС ды інтэрфронт «Адзінства»? Яны ж таксама былі супраць незалежнасьці Летувы. Можа, варта нам, не саромеючыся, павучыцца ў суседзяў?

**Р. КАРДАНСКІ, Канада.**

## У Горадні шануюць памяць паэтаў

У апошні дзень мінулага месяца ў Новым замку ў Горадні ладзілася вечарына, прысьвечаная 170-годдзю з дня нараджэньня вядомага ў славянскім сьвеце беларуска-польскага паэта й краязнаўцы Уладзіміра Сыракомлі. Пражыў ён толькі 39 гадоў, але за гэты час заставіў вялікую спадчыну. Падчас вечарыны была наладжана выстава яго кнігаў, якія захоўваюцца ў вабласной бібліятэцы й выдаваліся ў мінулым стагоддзі ў Польшчы й Вільні.

У. Мархель з Менску, аўтар кнігі аб У. Сыракомлі, падрабязна распавёў аб жыцьцёвым шляху паэта. У вечарыне бралі ўдзел Гарадзенская харавая капэла, супрацоўнікі гісторыка-археалягічнага музэю й Саюза палякаў Беларусі.

**(ав).**



**Фатаграфаваў У. ВЫДЗЭРКА.**

## Ад штрафаў больш карысьці, чым ад падаткаў

Два тыдні таму ў Горадні ўтвораны Саюз прадпрымальнікаў горада. Ініцыятарам установачага сходу гэтай арганізацыі выступіў гарвыканкам, які й запрасіў усіх мясцовых прадпрымальнікаў. Пры рэгістрацыі ўдзельнікам сходу быў прапанаваны праэкт статута плануемай арганізацыі.

Гарадзкое начальства паведаміла прадпрымальнікам аб цяжкім эканамічным становішчы, паскардзілася на тое, што шмат хто з камэрсантаў утойвае сваё прыбыткі й ня хоча плаціць падаткі. Дарэчы, штрафы сёньня складаюць больша прыбытак казьне, чым падаткі. Сітуацыя для нашага горада ненармальная. Адзначалася, што шмат хто з прадпрымальнікаў ня мае вопыту ў вядзеньні бухгалтарскай справы й г. д.

Аднак частка бізнэсмэнаў не пажадала адразу ўступаць у Саюз, заняўшы пазіцыю назіральнікаў. Некаторыя, паслухаўшы, аб чым вядзецца гаворка, адразу пакінулі залу.

З ўсяе залы ці ня два чалавекі здольныя былі правільна юрыдычна сфармуляваць свае прапановы ў праэкт статута. Галасавалі, як на партсходзе: за ўсё разам і абы хутчэй.

Цікава, што нават кандыдатуры сяброў савета прапанаваў таксама гарвыканкам. Унесьлі нават прозьвішчы тых, хто на сходзе асабіста не прысутнічаў. Праўда, усё ж нейкая дэмакратыя назіралася — некалькіх чалавек не абралі, вылучылі сваіх.

Надалей Саюз прадпрымальнікаў Горадні мае сваёй мэтай забясьпечваць абарону правоў прадпрымальнікаў, прадстаўляць іх інтарэсы ў дзяржаўных, грамадзянскіх і іншых ворганах і арганізацыях і г. д.

Дарэчы, быў абраны й старшыня савету саюза прадпрымальнікаў — А. Гардон, старшыня каапэратыва «Верасень». Яго пасада, мяркуецца, будзе вызваленай.

**(ір).**

## Каталіцкая нядзельная школа ў Доме настаўніка

Днямі Гарадзенская каталіцкая эпархія атрымала дазвол гарвыканкаму на правядзеньне ў Доме настаўніка ўрокаў катэхізесу. Заняткі праходзяць штодзённа, на іх прыходзяць дарослыя й дзеці.

Дарэчы, за першы тыдзень працы на ўроках вывучэньня катэхізесу пабывалі 700 чалавек.

**Г. У.**

## І хочацца, й колецца

Калі падыходзіш да шапікаў, што вядуць ў Горадні скупку-продаж валюты, найперш трапляеш у кола маладых людзей, якія жадаюць купіць любую колькасьць «зялёненькіх». Хто гэтыя дзяўчаты, хлопцы? Для чаго ім патрэбны даляры, маркі й фунты?

Пятро Н. ужо працяглы тэрмін праводзіць дзень за днём непадалёк скупачнага пункту банка «Комплекс» па вуліцы Горкага. Бываюць дні, калі за некалькі гадзін ён купляе сотню, а то й дзьве «зялёных». Праўда, бывае й па-другому, калі за цэлы дзень ўдаецца набыць усяго некалькі дзесяткаў даляраў. Але такое здараецца рэдка. Пятру вельмі патрэбны замежныя грошы, бо ён марыць з цягам часу набыць свой уласны легкавік. Сябры, што пачалі раней за яго «валютны» бізнэс, ужо даўно езьдзяць на мэрсэдэсах, фольксвагэнах, фордах. Пятру сорамна за сябе, бо нават дзяўчаты ад яго адварочваюцца: маўляў, што з «жабраком» мець справы. Існці ж працаваць няма сэнсу, бо заробак у 40—60 тысячаў, на думку юнака, больш, чым сьмешны.

Алесь В. сёлета атрымаў адукацыю фэльчара, але працаваць па размеркаваньню не пажадаў. Ён, як і Пятро, зьбірае даляры на легкавік, які плануе ў будучыне скарыстоўваць за таксі. Алесю ня вельмі падабаецца прастойваць ля скупкі. Таму хлапец часта езьдзіць у іншыя гарады Беларусі, быў Алесь нават некалькі разоў у Маскве, там курс даляра ніжэйшы, але вельмі цяжка тут у Горадні раздабываць расейскія рублі. Зараз Алесь спрабуе наладзіць падарожжы да Вільні, дзе даляр таксама больш танны, ды й нашы разьліковыя білеты там бяруць. «Сказаць па шчырасьці,— разважае Алесь,— Летува мне больш даспадобы, чым Расея — там і кошты за начлег не такія высокія, і летувісы, даведаўшыся, што я з Горадні, больш спагадлівыя, чым масквічы». Але Вільня — таксама ня мёд. Нейк чуў Алесь, што найбольш танныя даляры ў Каралеўцы, там іх курс бывае часам усяго 900 расейскіх рублёў. Аднаму ехаць туды страшнавата, там, кажуць, вельмі шчыруе рэкэт.

Жаданьні, жаданьні, яны перапоўнілі маладыя галовы, ім хочацца як мага хутчэй разбагацець, мець свой легкавік, дом, нарэшце, заможнае жыцьцё...

**Г. АСТРОЎСКІ.**

